З пачатку зімы ў РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі з траўмамі, атрыманымі пры катанні з горак на цюбінгах, звярнуліся больш за 100 дзяцей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***


№ 3 (4358)

11 студзеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.* ***Тэл. (8 017) 328 68 71***

ДУХОЎНАЯ СКАРБНІЦА

## Ад чаго праслязіўся Аляксандр Рыгоравіч

Пазаўчора ў Палацы Рэспублікі прайшла штогадовая цырымонія ўзнагароджвання лаўрэатаў нацыянальнай прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецпрэмій Прэзідэнта Беларусі.

Аляксандр Лукашэнка выступіў з вітальнай прамовай, і, заўважым, значная частка яе была на беларускай мове. У апошнія гады так доўга на роднай мове не доўжылася ні адно з яго публічных выступленняў. На гэты раз яно было і пафасным, і пранікнёным.

У гэтым годзе прэміямі ў асноўным адзначаны калектывы і аб'яднанні, і ў меншай ступені – персоны. Перш за ўсё ўзнагароду «За духоўнае адраджэнне» атрымала **Біблейская камісія Беларускай праваслаўнай царквы** – за пераклад шматлікіх дакументаў і літургічных тэкстаў на беларускую мову. Зразумела, што ў дадзенай знешнепалітычнай сітуацыі царкву нельга пакідаць па-за ўвагай дзяржавы.

Узнагароду атрымаў калектыў **Беларускага дзіцячага хоспіса**: людзі, якія там служаць, бясспрэчна, сапраўдныя падзвіжнікі міласэрнасці. Таксама ўзнагародай адзначаны **Юлія Быкава** і **Яўген Алейнік**, аўтары музыкі і тэкстаў шматлікіх патрыятычных песень на тэму малой радзімы. Цікава, што кліп да адной з іх – «Куточак Беларусі» – здымалі непасрэдна ў Александрыі – роднай вёсцы А.Лукашэнкі.

Але, бадай, самым знакамітым чалавекам у вялікім спісе узнагароджаных у гэтым годзе стаў **Віктар Манаеў** – вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст і проста ўлюбёнец беларускай публікі. Афіцыйна значыцца, што прэмія прысуджана за яго працы ў спектаклях «Рэвізор» і «Школа падаткаплацельшчыкаў», але, вядома, уклад гэтага акцёра ў тэатральнае мастацтва Беларусі невымерна больш вялікі.

Пасля афіцыйнай часткі цырымоніі адбыўся канцэрт. Адзін з нумароў прымусіў нават праслязіцца прэзідэнта. Яго сын Мікалай Лукашэнка ў дуэце з Юліяй Быкавай выканалі фантазію для двух фартэпіяна і голасу на тэмы песен пра малую радзіму.

**Вікторыя ДРОЗД.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Рождение еще одной «мыши»

Так называемое «дело БелТА» передано в Генеральную прокуратуру. «Хапун» журналистов, изъятие техники, шум в газетах, многочисленные заявления о немыслимом экономическом ущербе, нанесенном главному государственному информационному агентству, – все это завершилось обвинением, предъявленным единственному должностному лицу – главному редактору интернет-портала TUT.by Марине Золотовой. При этом можно прогнозировать: приговор будет не самым суровым. И это не связано с гуманностью белорусской Фемиды. Просто очевидно: дело дутое и шитое.

Впрочем, разве это единственное дело, которое начиналось именно так? Даже по событиям 19 декабря 2010 года изначально возбуждали дело в связи с якобы запланированным государственным переворотом, попыткой насильственного свержения конституционного строя. В беседах с некоторыми заключенными говорили чуть ли не о шпионаже в пользу соседних и несоседних держав. А закончилось – пшиком. Правда, этого «пшика» оказалось достаточно, чтобы отнять несколько лет активной жизни у нескольких десятков человек. Но зато другие люди получили звания, государственные награды; кое-кто даже продвинулся по службе. А что из жизни государства еще пять лет было вычеркнуто – так разве ж в этом следствие виновато? Или генералы, сознательно раскручивавшие это дело?

Рассказывал мне один высокопоставленный западный дипломат, как раз служивший в Беларуси в 2011 году. После известного фильма «Железом по стеклу» (фильм неизвестного авторства – только вот прошедший по главному государственному телеканалу) пришел к нему официально в посольство один из генералов страшного силового ведомства. Пришел с папкой документов, которые потом на судах не фигурировали, потому что приличному юристу их стыдно было в руки взять: распечатки непонятных черновиков из интернета, скачанные из изъятых компьютеров в отсутствие понятых, – ну и так далее. И начал тот генерал читать лекцию дипломату: дескать, вы же их, сук, грантами поддерживаете, а они вот такое тут замышляли!.. Но на прямой вопрос, что именно они («декабристы») замышляли, кроме выдвижения кандидатов в президенты, генерал доказательно ответить не смог. Посему дипломат указал ему на дверь, заявив напоследок:

– Для вас они, может быть, и преступники, а для нас – борцы за демократию.

Генерала того уже нет во власти. Власть рано или поздно избавляется не только от слишком умных, но и от не очень умных людей, даже если они генералы спецслужб. Но те, кто «шил» и «дул» это дело, надеясь на новую звездочку на погонах, новую колодку среди орденских планок, новую табличку на двери служебного кабинета – все они остаются на своих местах. Их почерк виден.

Виден он был по «делу патриотов» – когда неизвестными лицами был придуман и даже продемонстрирован на записи автомобиль, якобы прорвавший государственную границу Беларуси и Украины с украинской стороны. А потом всех до единого (!!!) фигурантов «дела» были вынуждены освободить – и дальше молчали. Молчали не потому, что было стыдно: государственная гора опять родила мышь. Молчали потому, что высшее начальство сжало зубы и пошло на уступку идеологам нового внешнеполитического курса. Бесчестность следствия, инициировавшего «дело», была продемонстрирована для того, чтобы не сорвать крупный международный форум, за проведение которого официальный Минск многое готов был отдать.

Виден этот почерк и сейчас. Крик, шум, публичные обвинения… Что из этих обвинений будет подтверждено материалами дела? Предполагаю – ничего.

Создатель портала TUT.by Юрий Зиссер написал некоторое время назад в «Фейсбуке»: «Единственным законным приговором Марине Золотовой может быть ее оправдание».

Да, «тырить» информацию с чужих сайтов – нехорошо, неправильно. Но на открытости информации строится сегодня вся мировая информационная система. И обвинительный приговор Золотовой – накануне теперь уже не политического, но крупнейшего европейского спортивного события, намеченного к проведению в Беларуси, будет серьезным сигналом для всех журналистов и политиков Европы. Тем более что уголовного преступления – очевидно – нет.

– Ничего! – наверное, думают «шившие» и «раздувавшие» «дело БелТА» лица, – в Берлин в 1936 году на Олимпиду – это к Гитлеру! – все равно приехали!

Да, приехали. Но помнили, что имеют дело с Гитлером. И репутацию Германии те Олимпийские игры вовсе не упрочили. И Международный олимпийский комитет – после 1945 года – был вынужден публично принести свои извинения всему миру за принятое тогда решение.

Может быть, лучше вообще не допускать проведения подобных параллелей? И дело даже не в том, что белорусская власть, что бы о ней ни говорили и ни писали, до нацистской Германии по степени бесчеловечности своей ну никак не дотягивает. Просто те, кто год за годом «рожает» подобных всем перечисленным делам «мышей», должны один раз получить по рукам. Но так, чтобы запомнили. Чтобы другим не повадно было позорить свою страну ради звездочек, колодок и табличек на новых служебных кабинетах.

СЛЫШАЛИ?

## Лукашенко предлагает открыть поставку нефти в Беларусь через страны Балтии

Президент Беларуси Александр Лукашенко поручил правительству проработать вопрос об альтернативных вариантах поставки нефти в страну. Соответствующую задачу глава государства поставил вчера на совещании о социально-экономическом развитии страны в 2019 году и подходах к дальнейшему развитию интеграционных направлений.

Александр Лукашенко напомнил, что в этом году планируется закончить модернизацию двух белорусских нефтеперерабатывающих заводов, после чего Беларусь сможет покупать нефть для последующей переработки не только у России.

*«Я уже давно ставил задачу, и нам надо ее решить: открыть альтернативную поставку нефти через прибалтийские порты. Если литовцы не согласны – с латышами договориться и закупать эту нефть. Перерабатывать на Новополоцком нефтеперерабатывающем заводе и обеспечивать балтийские республики»*, – сказал Александр Лукашенко.

По его словам, для стран Балтии это будет дешевле, чем сейчас, когда они покупают нефтепродукты по мировым ценам.

*«Можно договориться так, что это будет наша общая нефть, которую мы переработаем на модернизированном Новополоцком нефтеперерабатывающем заводе. Тем более у нас даже есть некоторые возможности в этом плане».*

(БЕЛТА.)

СКАЗАНА!

## Аб аб'яднанні дзвюх дзяржаў размова не ідзе

Падчас учарашняй нарады Аляксандр Лукашэнка заявіў, што саюз Беларусі і Расіі можа развівацца толькі на раўнапраўнай аснове. *«І гэта не таму, што Лукашэнка так хоча, як гэта падаецца ў Расіі. А таму, што гэта фундаментальныя прынцыпы пабудовы любога саюза. Няма раўнапраўнай асновы – няма саюза,* – сказаў беларускі лідар. – *Усё павінна адбывацца на раўнапраўнай аснове, і на гэта павінна быць воля двух народаў – Расійскай Федэрацыі і Беларусі. Мы ўвесь час, фарміруючы гэты саюз, павінны азірацца на меркаванне нашых людзей. Таму па многіх-многіх прычынах, вы самі разумееце, аб аб'яднанні дзвюх дзяржаў размова не ідзе».*

КРЫМІНАЛ

## Ваеннага камісара Слуцкага і Старадарожскага раёнаў затрымалі за хабар

Паводле некаторых звестак, Аляксандр Петравец браў грошы за дапамогу прызыўнікам пазбегнуць службы ў войску ці атрымаць адтэрміноўку.

Як паведамілі ў Следчым камітэце, А.Петравец знаходзіцца пад вартай.

А.Петраўцу 48 гадоў. Пасаду ваеннага камісара ён займаў з 2013 года.

Калі суд пацвердзіць яго віну, то яму пагражае да 15 гадоў зняволення.

З ЮБІЛЕЕМ!

Васіль ШАРАНГОВІЧ:

## «Мой мастацкі лёс непадзельна знітаваны з народам…»

*14 студзеня народнаму мастаку Беларусі Васілю Шаранговічу споўніцца 80. Самы незвычайны падарунак ён атрымаў з роднай Мядзельшчыны – там у курортным пасёлку Нарач нядаўна адкрылася яго персанальная мастацкая галерэя. Так землякі адзначылі заслугі першага рэктара Беларускай акадэміі мастацтваў, які выхаваў цэлую плеяду таленавітых вучняў, класіка айчыннай графікі, які 35 разоў станавіўся пераможцам конкурсаў кніжнай ілюстрацыі. Паважны юбілей – добрая нагода азірнуцца на пройдзены шлях, прыгадаць цікавыя падзеі, падсумаваць зробленае…*



### «На візітоўцы – шляхціц з турыным рогам»

**– Васіль Пятровіч, ваш бацька быў кавалём. А не казаў ён вам: сынку, бяры ў рукі молат, хіба пэндзлем на хлеб заробіш?**

– Не, ніхто мяне не адгаворваў ад намеру стаць мастаком. А ў кузні я бацьку дапамагаў яшчэ школьнікам. Праўда, молат важыў 20 кілаграмаў, я яго падняць не мог, то за горнам прыглядаў. Думаю, што бацькі былі задаволены дзяцьмі – мы ўсе чацвёра атрымалі вышэйшую адукацыю. Хіба імя маё – Васіль – маме спачатку не падабалася. Яна хацела мяне Генадзем назваць. Але пакуль у далёкім 1939 годзе падвыпіўшыя сваты прабіваліся праз снежныя сумёты ў царкву ў Мікасецку, забыліся імя немаўляці. Бацюшка пытаўся-пытаўся, ды, так і не дапытаўшыся, прапанаваў назваць Васілём – гэтак па святцах выходзіла. Так і назвалі. А ў нас сусед Васіль быў – па мянушцы Баран. Ну, маці на хрэсьбінах са злосці і кінула: «Баран да барана – будзе чарада». Потым гадоў дваццаць сусед з бацькамі не размаўляў, памірыліся, калі я ўжо студэнтам быў.

**– Ці не ў кожнага мастака ёсць твор, які можна назваць ягонай візітоўкай. Тут можна згадаць «Пагоню Ярылы» Язэпа Драздовіча, «Блакітную капліцу» Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, «Сланечнікі» Вінсента Ван-Гога. А які твор можна лічыць візітнай карткай Васіля Шаранговіча?**

– А вось паглядзіце, што ў мяне на візітоўцы (*усміхаецца і дастае з шуфляды*). Шляхціц з турыным рогам – малюнак да паэмы «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча. А калі сур'ёзна, то назваць нейкі адзін твор мне цяжкавата. Я ж найперш ілюстратар, мастак серыйны. Я заўсёды рабіў вялікія серыі ілюстрацый. Найбліжэй і найдаражэй мне дзве серыі – да таго ж «Пана Тадэвуша» і да «Новай зямлі» Якуба Коласа. Сваёй візітоўкай магу назваць і літаграфію на матыў верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?». А да «Новай зямлі» я зрабіў аж 90 вялікіх ілюстрацый, працаваў паўтара года.

**– Малюнкі да Коласавай паэмы вы маглі падгледзець у сялянскім побыце сваёй сям'і. А скуль вы ведалі, як трэба апрануць шляхту, чым яе ўзброіць у «Пане Тадэвушы»? Там жа кожны гузік выпісаны дэталёва.**

– Перш чым засесці за працу, я вывучыў горы гістарычнай літаратуры. Мне прыемна, што «Пан Тадэвуш» з маімі ілюстрацыямі ўжо тройчы перавыдаваўся. Пабачыўшы іх, палякі далі мне званне «Заслужаны дзеяч польскай культуры» і хацелі набыць малюнкі для музея Міцкевіча. Я не згадзіўся, пажартаваўшы: вы, палякі, і так у нас многае адабралі, хай хоць гэтыя ілюстрацыі застануцца ў Беларусі...

**– 35 разоў аздобленыя вамі кнігі перамагалі на розных конкурсах – беларускіх і міжнародных. А якая перамога самая памятная?**

– Я ніколі не захапляўся гэтак званай «Ленініянай», але перад 100-мі ўгодкамі правадыра сусветнага пралетарыяту, якія адзначаліся ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза, мне прапанавалі праілюстраваць беларускае выданне паэмы Уладзіміра Маякоўскага «Уладзімір Ілліч Ленін». Кніга выйшла і атрымала першую прэмію на рэспубліканскім конкурсе. У 1970-м яе павезлі ў Маскву, на ўсесаюзную выставу, і там яна таксама была прызнана найлепшай. Помніцца, мяне, маладога мастака, віншаваў з перамогай славуты расійскі графік, лаўрэат усіх на свеце прэмій Дзмітрый Бісці. Вось так мне давялося засвяціцца на ўсесаюзным конкурсе.

### «Разгарнуў газету і прачытаў, што зняты з пасады»

**– Вы былі рэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў у самы няпросты час, у 1989–1997 гадах. Сканаў Савецкі Саюз, няўпэўнена станавілася на ногі незалежная Беларусь. Што вам бачыцца самым важным са зробленага на рэктарскай пасадзе?**

– Відаць, тое, што пры мне Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут стаў Акадэміяй мастацтваў. Помню, як па гэтай справе я сустракаўся з прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам, і ён падтрымаў маю ідэю. У новай установе былі адкрыты новыя факультэты і кафедры, узніклі новыя спецыяльнасці – дакументальнае і мастацкае кіно. Увогуле, з цягам часу акадэмія рыхтавала кадры па 37 спецыяльнасцях. Дарэчы, рэктарам мяне выбралі на першых і апошніх у гісторыі акадэміі выбарах – пры адкрытым галасаванні, пры наяўнасці моцных канкурэнтаў. Пры мне ўсё справаводства і ўсё выкладанне было пераведзена на беларускую мову. Хоць у акадэміі працавала нямала выкладчыкаў, якія мовы не ведалі.

**– Яны не супраціўляліся?**

– А іх ніхто асабліва не прымушаў. Працавалі курсы беларускай мовы для ўсіх ахвочых. Як аказалася, пры жаданні зусім няцяжка перайсці на мову. Відаць, нехта думаў: як гэта я прыйду да беларускамоўнага рэктара і буду размаўляць па-руску?.. Акадэмія адкрыта ўзяла курс на адраджэнне нацыянальнага мастацтва, на сцвярджэнне нацыянальнай культуры. Відаць, камусьці ва ўладзе гэта не спадабалася, і ўлетку 1997 года, разгарнуўшы газету, я прачытаў, што зняты з пасады.

**– У газеце прачыталі? Вы перажывалі, што да вас так несправядліва паставіліся?**

– Перажываў, вядома ж. Усё ж 10 гадоў жыцця я аддаў кіраўніцтву акадэміяй, фактычна на творчасць не заставалася часу. Помніцца, адразу пайшоў пляшку купіў… А потым сеў і разважыў, як, не зняўшы мяне, можна было змяніць курс акадэміі? Ніяк. А курс, паўтаруся, быў нацыянальны.

### «Чаму Шаранговіч плот вакол Курапатаў не паставіў?»

**– На пачатку 1990-х гадоў вы займаліся праектам помніка ў Курапатах, узначальвалі журы конкурсу. Ці не адчуваеце вы сябе адказным за тое, што помнік там стаіўся аж 30 гадоў?**

– За гэта мяне папракаў і Васіль Быкаў (ён уваходзіў у журы). Але тут ніякай маёй віны, ніякай маёй недапрацоўкі няма. Проста дапамогі ні ад улады, ні ад кога не было. У той час Мінскі гарадскі фонд культуры не меў за душой ні рубля! А мне да гэтай пары закідаюць: чаму Шаранговіч плот вакол Курапатаў не паставіў? А колькі на гэта грошай трэба было – ведаць не хочуць. Так, на тагачасным конкурсе былі адхілены некалькі праектаў, але яны былі створаны абсалютна ў прасавецкім духу. Памятаю, да мяне падышла грамадская актывістка Мая Кляшторная і сказала: «Калі вы прапусціце адзін з гэтых бетонных помнікаў, то я на дарозе лягу і не пушчу яго ў Курапаты!»

(Заканчэнне на 2-й стар.)

З ЮБІЛЕЕМ!

## Васіль ШАРАНГОВІЧ:

# «Мой мастацкі лёс непадзельна знітаваны з народам…»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– І як вы меркавалі выйсці з тупіковага становішча?**

– Убачыўшы, што конкурс нічога не дае, я прапанаваў зрабіць міжканфесійную капліцу, каб у Курапатах мог паставіць свечку чалавек любой нацыянальнасці і любога веравызнання. І мы са скульптарам Валяр'янам Янушкевічам працавалі над праектам такой капліцы. На апошнім пасяджэнні аргкамітэта, дзе прысутнічалі святары ўсіх канфесій, наша прапанова была ўхвалена. На жаль, па не залежных ад мяне прычынах праект капліцы застаўся нерэалізаваным. Але як мастак і грамадзянін я рабіў усё магчымае, каб помнік у Курапатах з'явіўся.

**– Дык вашу ідэю падхапілі маладыя скульптары – у Курапатах усталяваны помнік-капліца.**

– Усталяваны летась помнік я разглядаю як нешта часовае. Той помнік-капліца не з'ўляецца канчатковай кропкай у мемарыялізацыі Курапатаў. А ўлада паставіла і лічыць, што закрыла праблему. Вось што самае кепскае. Умоўная капліца з'явілася на месцы, дзе павінна стаяць капліца сапраўдная. Куды чалавек мог бы зайсці, памаліцца, паставіць свечку, усвядоміць усю трагедыю. У 1990-я гады мы якраз пра гэта думалі.

**– Вы ў 1991 годзе атрымалі званне народнага мастака Беларусі. Адносіны мастака з народам нярэдка бывалі няпростымі. Згадайма таго ж Купалу: *«А людзі, глянуўшы на сонца, / Адказ трымалі грамадой: / – Па колькі нам дасі чырвонцаў, / Калі мы пойдзем за табой?»* А якія дачыненні з народам у вас?**

– Яшчэ з часоў маленства мне ўспамінаецца, як на Вялікдзень на выгане, дзе рубілася новая хата, сабраліся апранутыя па-святочнаму вяскоўцы. Сядзелі, гаманілі, спявалі песні. Я збоку назіраў. І была ў гэтым такая прыгажосць, што, відаць, тады ва мне і абудзіўся мастак. Практычна ўсе мае творы звязаны з жыццём простых людзей. Я з маленства быў з імі, чытаў ім «Новую зямлю» і здзіўляўся: чаму ім так смешна? Потым зразумеў: паэма – пра іх і для іх напісана. Так што мой мастацкі лёс непадзельна знітаваны з народам. Можа, гэта нясціпла прагучыць, але народны мастак я не паводле звання, а па сутнасці.



**«Пакуль існуе нацыянальнае мастацтва, датуль існуе і нацыя»**

**– У Беларусі больш не з'яўляюцца народныя мастакі і народныя пісьменнікі, хоць званне гэтае ніхто не адмяняў. На дзяржаўныя катурны ўздымаюцца спартсмены, на падрыхтоўку якіх улада траціць велізарныя грошы. Перамог на алімпіядах, трактароў «Беларус» і самазвалаў «БелАЗ» дастаткова, каб самасцвердзіцца ў свеце?**

– Як могуць спорт ці трактары замяніць нацыянальнае мастацтва? Без яго жыццё народа немагчымае. Я заўсёды гаварыў сваім студэнтам: будзьце непадобнымі на другіх, не хадзіце чужымі гародамі. Бо, калі адчыніліся сенцы ў Еўропу, усе туды рынуліся і сталі рабіць нешта другараднае, тое, што даўно ўжо зроблена еўрапейскімі мастакамі. Я перакананы: мастацтва заўсёды павінна мець нацыянальны характар. Мы цікавыя свету менавіта як беларусы. Адметнасць нацыі не відна на хакейным полі ці ў кабіне трактара, яна праяўляецца найперш у мастацтве. Пакуль існуе нацыянальнае мастацтва, датуль існуе і нацыя.

**– Масква чарговым разам загаварыла пра далейшую інтэграцыю з Беларуссю, што нас не можа не насцярожваць. Што Беларусі дапаможа выстаяць, захаваць свой суверэнітэт?**

– Выстаіць Беларусь толькі тады, калі будзе мець свой нацыянальны гонар, калі дакажа свету, суседзям, што мы сярод другіх народаў не горшыя. Наш народ трывушчы, колькі нас ні збівалі з уласнага шляху, мы ўсё ж неяк трымаемся. Трымаемся за сваю зямлю, мацуемся кавалкам свайго хлеба. Кажуць: у нас незайздроснае суседства – Беларусь маленькая, а Расія вялікая. І калі Расія падпіхне, дык мы і ўпадзём у яе абдымкі. Не ўпадзём! Будзем стаяць на сваёй зямлі, на сваіх нагах. Хай нашы незычліўцы не губляюць сілы на падпіхванне, нічога ў іх не выйдзе. Свая мова, свая гісторыя, сумленны і працавіты народ – вось зарука нашай нацыянальнай трываласці. Думаю, што ў Беларусі павінна быць і свая царква, як ва Украіне. А то хрысцімся і на той свет выпраўляемся з чужой царквы. Гэта нас аслабляе духоўна. Свет цяпер робіцца ўсё больш агрэсіўны, і мы мусім умацоўвацца з усіх бакоў.

**– Мастацкіх галерэй у рэгіёнах увогуле няшмат, а персанальныя па ўсёй краіне можна на пальцах пералічыць. Хто паспрыяў, каб ваша галерэя з'явілася на свет?**

– Гэта была даўняя задума мядзельскіх улад, бо родам з Мядзельшчыны трое народных – паэт Максім Танк, артыстка Марыя Захарэвіч і мастак, ваш пакорлівы слуга. Раён даўно хацеў неяк нас ушанаваць, ды ўсё не атрымлівалася. Праўда, агульнавядома, як у правінцыі ставяцца да мастацтва. Карысці ж з яго ніякай… «Дапамаглі» стварэнню галерэі абласныя дажынкі. Мінскі аблвыканкам выдзеліў грошы на святкаванне, частку з іх удалося патраціць на рамонт былой школы (у пасёлку збудавалі новую, трохпавярховую), дзе зрабілі Цэнтр культуры і адпачынку. І вось цэлае крыло ў ім аддалі пад галерэю (у цэнтры плануюцца і мемарыяльныя пакоі Танка і Захарэвіч). Вельмі паспрыяла ў гэтай справе намесніца начальніка галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення аблвыканкама Святлана Баранок, яна і будынак выбіраць ездзіла, і рамонт кантралявала.

**– Вы перадалі ў галерэю 130 сваіх прац. А не шкада? Усё ж у Мінску іх змагло б убачыць нашмат больш людзей.**

– У Мінску персанальных галерэй, здаецца, толькі дзве – Шчамялёва і Савіцкага. Больш не адчыняюць. А ў Нарачы пад галерэю адвялі больш за 200 квадратных метраў. Гэта даволі вялікі курортны пасёлак (ранейшая назва – Купа), там адпачываюць тысячы людзей. У Мінску людзям ёсць што паглядзець, куды схадзіць. А куды пайсці адпачыннікам? Мне расказвалі, што пасля афіцыйнага адкрыцця галерэі яшчэ некалькі дзён ехалі цэлыя аўтобусы – людзі дачуліся і захацелі паглядзець. Прычым адпачываюць там не толькі беларусы, вельмі шмат расіян, і з краін Заходняй Еўропы турысты прыязджаюць. Нарач – для ўсіх прыцягальнае месца.

**– Дзякуй, Васіль Пятровіч, за гутарку! Прыміце ў сувязі з юбілеем віншаванні ад усяго калектыву «Народнай Волі»!**

– Дзякуй і ўсім вам!

**Міхась СКОБЛА.**

***У «Народнай Волі» за 26 снежня была інфармацыя пра тое, што Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) вызначыла аж 35 сацыяльных праблем, якія неадкладна павінны вырашацца ўладамі. У рэдакцыйным бліц-каментарыі падкрэслівалася: гэта добра, што партыю хвалюе сітуацыя, якая складваецца ў краіне. Але цікава ведаць, якія канкрэтныя варыянты вырашэння праблем прапануюць самі партыйцы.***

***Сёння мы друкуем артыкул кандыдата эканамічных навук П.Мігурскага. Як сябра БСДП (Грамада) ён практычна агучвае погляд партыі на вырашэнне такой архіважнай праблемы, як вывядзенне эканомікі краіны на больш высокі ўзровень. Чытачы маюць магчымасць уключыцца ў дыскусію і са старонак газеты выказаць сваё бачанне шляхоў, па якіх павінна ісці Беларусь у бліжэйшай перспектыве.***

ПАРТЫЙНАЯ ПАЗІЦЫЯ

## Пётр МІГУРСКІ, кандыдат эканамічных навук

# Як вывесці Беларусь на новы эканамічны ўзровень

Галоўнае адрозненне паміж краінамі-аўтсайдарамі і лідарамі сусветнай экономікі палягае ў выбары мадэляў палітычнага ўпарадкавання і сістэмы эканамічных адносін.

Аўтарытарныя дзяржавы, да якіх належыць, я лічу, і Беларусь, характарызуюцца адсутнасцю паўнавартаснай рыначнай эканомікі, нізкімі тэмпамі тэхнічнага прагрэсу, высокім узроўнем карупцыі, беднасцю пэўных слаёў насельніцтва і напружаннем на рынку працы.

Пры гэтым высокія чыноўнікі спасылаюцца на адсутнасць у Беларусі выхаду да мора, на абмежаваныя транзітныя магчымасці, недастатковую колькасць карысных выкапняў… Але гэта не апраўдвае беларускае кіраўніцтва, калі размова заходзіць пра нізкі ўзровень дабрабыту значнай часткі людзей. Тым больш што ў свеце ёсць прыклады дзяржаў, якіх Бог не надзяліў асаблівымі багаццямі, але ў якіх сёння недасягальна высокі для Беларусі ўзровень жыцця насельніцтва.

Прычыны маруднага развіцця нашай эканомікі не ў прыродных рэсурсах, а ў тым, па якіх прынцыпах мы яе развіваем.

У Беларусі каля 70 працэнтаў маёмасці знаходзіцца ў руках дзяржавы і да 90 працэнтаў аб'ёму інвестыцый у асноўны капітал накіроўваецца з дзяржбюджэту. Згубіць магчымасць умяшання ў эканамічныя адносіны з асабістай выгадай не могуць сабе дазволіць беларускія чыноўнікі ўсіх узроўняў улады, таму і трымаюцца за дзеючыя стасункі ў сацыяльна-эканамічнай сферы, якія не даюць плённых вынікаў.

Прэваліраванне дзяржаўнай маёмасці ў эканоміцы Беларусі – вось што з'яўляецца галоўнай прычынай самай высокай інфляцыі на прасторах СНД – з-за ўтрымання стратных дзяржаўных прадпрыемстваў за кошт бюджэту марнуюцца велізарныя сродкі, беларусы становяцца аднымі з бяднейшых у Еўропе.

Аргументы на карысць дзяржаўных прадпрыемстваў, што яны, маўляў, выпрацоўваюць да 60 працэнтаў валавага ўнутранага прадукту, не зусім абгрунтаваныя, бо функцыянуюць амаль усе дзяржпрадпрыемствы ва ўмовах абмежаванай канкурэнцыі, бюджэтнай падтрымкі і льготнага крэдытавання.

Аднак самае масавае звальненне рабочых за апошнія дзесяцігоддзі адбываецца менавіта з дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання. Спадарожнікамі дзейнасці большасці дзяржпрадпрыемстваў сталі падзенне попыту на іх прадукцыю на знешнім рынку, назапашванне звышнарматыўных запасаў і рост крэдыторскай запазычанасці.

З аднаго боку, на дзяржпрадпрыемствах працуе да 1,5 мільёна работнікаў, а з другога – ідзе назапашванне праблем: губляюцца тэхналогіі, кваліфікаваныя кадры, нарастаюць тэрытарыяльныя дыспрапорцыі. Дзяржаўная маёмасць у цэлым нясе больш сацыяльную функцыю, чым эканамічную.

Жаданне дзяржавы кіраваць усім і ўсюды цяжкім ярмом кладзецца на выніках працы прадпрыемстваў і дабрабыт людзей. Характэрны прыклад разбуральнага для беларускай эканомікі дзяржкіравання: у перадавых краінах інвестыцыі ў эканоміку з'яўляюцца рухавіком прагрэсу, а ў Беларусі шматлікія дзяржпрадпрыемствы многія гады знаходзяцца ў стане перманентнай мадэрнізацыі, безвыніковай з пункту гледжання эфектыўнасці. І гэта вынік таго, што ў нашай краіне сфарміраваўся памылковы падыход у вызначэнні перадавых галін эканомікі, у развіццё якіх і накіроўваюцца бюджэтныя сродкі.

На самай справе няма перадавых галін – ёсць перадавыя тэхналогіі, якія могуць быць у любой галіне. Такі падыход дазваляе зрабіць выснову, што галіновыя прыярытэты не могуць фармулявацца цэнтралізавана. І дзяржаўная стратэгія фарміравання сучаснай мадэлі эканамічнага развіцця, выпрацаваная раней, заканамерна састарэла, як састарэлі і метады гаспадарання ў краіне.

Дзяржава павінна спрыяць развіццю прыватнага бізнесу, які паступова ў Беларусі нарошчвае як выпуск прадукцыі, так і колькасць занятых у ім работнікаў. Менавіта дзяржава павінна забяспечыць добрыя ўмовы для таго, каб прыватны капітал выяўляў і рэалізоўваў прыярытэтныя ідэі праз найноўшыя тэхналогіі. Гэта дазваляе пазбавіцца імкнення дасягаць кароткатэрміновых эфектаў на шкоду сярэдне- і доўгатэрміновым планам. Бо меры, якія даюць кароткатэрміновы эфект, як правіла, шкодныя з пункту гледжання сярэдне- і доўгатэрміновых задач, у тым ліку і эканамічнага росту. А тое, што забяспечвае доўгатэрміновы поспех, практычна немагчыма прадэманстраваць у бліжэйшы час.

Зараз жа ўрад краіны беспаспяхова спрабуе рэалізаваць кансерватыўныя планы і розныя заданні папулісцкага характару без перспектывы рэальнага эканамічнага росту. Трэба зразумець, што сёння больш важныя не самі паказчыкі ў эканоміцы (хаця і гэта немалаважна), а трэнды развіцця і іх якаснае напаўненне. Ці не таму Беларусь на працягу апошніх гадоў ператварылася з прамыслова-будаўніча-гандлёвай краіны ў прамыслова-гандлёва-аграрную?

Знізілася ў ВУП доля паслуг транспарту, перапрацоўчай прамысловасці, так і не набралі моцы высокатэхналагічныя напрамкі ў эканоміцы. Беларускае кіраўніцтва працягвае ўпарта рабіць стаўку на эфемерную эфектыўнасць дзяржмаёмасці, што ў выніку можа прывесці да дэіндустрыялізацыі эканомікі. Адваротны дзяржаўны ж падыход: рэзідэнты свабодных эканамічных зон (а там дамінуе прыватны капітал) дэманструюць сталы рост паказчыкаў як па вытворчасці, так і па прыбытках, колькасці работнікаў і іх заробках.

На жаль, блокчэйн, лічбавая эканоміка ў Беларусі пакуль не прынялі маштабны характар, гэта больш удзел энтузіястаў-адзіночак. Ці не таму планы па інавацыйнай перспектыве беларускай эканомікі падобныя да казак, якія разбіваюцца аб дынаміку росту інавацыйнага прадукту, які не выходзіць за долю ў 10 працэнтаў. Пра высокія тэхналогіі можна гаварыць толькі на некаторых прадпрыемствах, якія зноў жа прыватныя ці з удзелам замежнага капіталу.

Асаблівая ўвага надаецца факту мадэрнізацыі вытворчасці. Тут свае хібы: для Беларусі характэрна даганяючая мадэрнізацыя – поўнае запазычанне тэхналогій і адпаведнага ім абсталявання з мэтай «дагнаць і перагнаць». Практыка апошніх дзесяцігоддзяў паказвае, што Беларусь усё больш адстае ад перадавых краін свету. І, калі не браць да ўвагі неабходнасць мадэрнізацыі ў першую чаргу палітычнай сістэмы Беларусі, забяспечваць індустрыялізацыю рэальнага сектара эканомікі шляхам частковага пераабсталявання састарэлых прадпрыемстваў шкодна для будучага – іх трэба мяняць на сучасныя прадпрыемствы.

Але, трэба сказаць, без дапамогі высокаразвітых краін і замежнага капіталу гэта ў Беларусі зрабіць немагчыма. І тут нам трэба звярнуць увагу на асаблівую недарэчнасць, характэрную для Беларусі: у нашай краіне спалучаюцца адкрытасць эканомікі дзяржавы і закрытасць арганізацыі кіравання на рэгіянальным узроўні. Спробы заманіць замежны капітал натыкаюцца ў тым ліку на бездапаможнасць і ненадзейнасць мясцовай вертыкалі. «Дабівае» сітуацыю ўзрастаючая карупцыя, якая прывяла да татальнай нязграбнасці чыноўнікаў у працы з інвестарамі, якія праводзяць «мадэрнізацыю» пад сваю выгаду без уліку перспектывы для Беларусі.

З прычыны толькі гэтых разважанняў можна зрабіць выснову, што беларускаму кіраўніцтву надышоў час прыступіць да шырокамаштабнага раздзяржаўлення маёмасці і яе прыватызацыі. Дзяржаўная маёмасць павінна перайсці ў рукі больш эфектыўнага ўласніка. Пры гэтым сам працэс прыватызацыі павінен быць празрыстым і адкрытым, а работнікам прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, павінен быць гарантаваны ўдзел у прыватызацыі на льготных умовах. Прыватны капітал павінен вырашаць лёс не толькі стратных прадпрыемстваў (распаўсюджаная практыка ў Беларусі), але і прыносіць карысць эканоміцы ў зняцці нагрузкі з бюджэту, што дасць магчымасць вырашаць сацыяльныя праблемы.

Пры гэтым у Беларусі павінен запрацаваць класічны другасны рынак каштоўных папер. Павінны быць зняты ўсе абмежаванні на абарачэнне акцый: каб іх можна было свабодна прадаваць, дарыць, закладваць і перадаваць у спадчыну.

Але ж прыватызацыя не павінна быць бескантрольнай – трэба вельмі абдумана падыходзіць да прыватызацыі ў тых галінах, якія маюць агульнанацыянальнае значэнне, – чыгунка, метро, радовішчы карысных выкапняў, энергасістэмы…

Хачу звярнуць увагу вось яшчэ на што: прыватны бізнес павінен працаваць у аднолькавых умовах з дзяржаўным. Характэрны, няхай і не такі маштабны, прыклад, калі індывідуальныя прадпрымальнікі да 70 працэнтаў тавараў адпускаюць у доўг. Вымушанасць такіх дзеянняў абумоўлена не толькі збядненнем насельніцтва, але і немагчымасцю на роўных з дзяржаўнымі структурамі ўдзельнічаць у вытворча-гандлёвых адносінах. Сучасны бізнес вельмі складаны, канкурэнтнае асяроддзе нашмат шчыльнейшае, чым на пачатку 1990-х гадоў, і таму беларускім бізнесменам патрэбна сучаснае веданне эканомікі. Бізнес ператвараецца ў элітарны занятак і патрабуе сістэмнага падыходу да адукацыі, што павінна таксама забяспечыць дзяржава. Будучае краіны, беларускай эканомікі залежыць ад якасці адукацыі, што немагчыма без рэалізацыі інфармацыйных тэхналогій і інавацый.

Калі ў бліжэйшы час не будзе прынцыповых змен ва ўнутранай палітыцы дзяржавы, праз некаторы час у Беларусі можа з'явіцца стратэгічная праблема захавання чалавечага капіталу. Трэба разумець, што ў будучым фактар працы ўжо будзе не зусім атаясамлівацца з працоўнай сілай – на першы план выйдзе якасць працоўнай сілы.

Нам патрэбны змены ў сістэме матывацыі працы, уладання маёмасцю, камерцыйнымі актывамі, у тым ліку і праз раздзяржаўленне маёмасці. І пачынаць трэба са стварэння камфортных умоў для бізнесу на ўсёй тэрыторыі краіны, а не вырашаць мясцовыя праблемы праз канцэнтрацыю ўвагі дзяржавы на канкрэтным рэгіёне. Напрыклад, спробы рэфармаваць сельскагаспадарчую вытворчасць праз многамільярдныя інвестыцыі без прынцыповага вырашэння пытання прыватнай уласнасці адпаведнага поспеху так і не прынеслі. Валавы прадукт сельскай гаспадаркі вагаецца вакол сярэднегадавых паказчыкаў апошняга дзесяцігоддзя, а стратнасць дзяржсельгаспрадпрыемстваў нарастае, крэдыторская запазычанасць перавышае дэбіторскую часам у 6 разоў. Галіна ў цэлым банкрот, і запазычанасць буйнатаварнай вытворчасці без дапамогі дзяржавы ніколі не будзе вернута крэдыторам. Але ёсць і новая з'ява ў сельскім жыцці Беларусі: паўсюдна адзначаюцца вёскі, дзе зусім няма дзяцей. Не вельмі прыгожы вынік рэфармавання аграрнага сектара эканомікі.

Няцяжка заўважыць, што ключавыя праблемы сацыяльна-эканамічнай дынамікі знаходзяцца ў Беларусі па-за эканамічнай сферай. Таму для забеспячэння паступовага руху эканомікі дзяржавы патрэбна адпаведная каардынацыя дзяржаўнай, прамысловай, рэгіянальнай і навукова-тэхналагічнай палітыкі, якая і павінна прывесці да прытоку замежных інвестыцый у цэлым у краіну. Прычым сама па сабе рэгіянальная палітыка павінна з'ўляцца фактарам эканамічнага росту. Таму і заканамерна для Беларусі перспектыва дэцэнтралізацыі ўлады з дэлегаваннем паўнамоцтваў органам мясцовага самакіравання, у тым ліку і ў фарміраванне органаў кіравання рэгіёнамі. Актуальным з'ўляецца ўкараненне лічбавых тэхналогій у дзяржкіраванне, стварэнне электроннага ўрада і перадача яму паўнамоцтваў у вырашэнні распаўсюджаных праблем, што аўтаматычна аслабіць рэгуляванне грамадства і бізнесу.

Доўгія гады мы не бачым рэвалюцыйных змен у эканоміцы Беларусі, няма гарантый для прыватнай маёмасці і зараз, замежныя інвестыцыі вельмі абмежаваны па аб'ёмах і звужаны да пэўных галін, а працоўная сіла «ўцякае» за мяжу. Пры ўсіх намаганнях улады да гэтага часу ў Беларусі асобныя элементы рынку не склаліся ў сістэму, таму што пакуль няма яшчэ належнага інстытуцыянальна-заканадаўчага асяроддзя, якое дазволіць мець эфектыўную, устойлівую, але і сацыяльную эканоміку.

Сучаснай Беларусі патрэбна своеасаблівая спіраль карысці для грамадства: дэмакратызацыя – прыватная маёмасць – замежныя інвестыцыі – вынік. Зразумела, што гэта вельмі спрошчаны падыход, але ў ім праглядаецца матывацыя для беларусаў, якія павінны жыць у новай эканамічнай рэальнасці.

*Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) выступае за спыненне датацый у стратныя прамысловыя прадпрыемствы, а таксама за паэтапнае скарачэнне дзяржаўнай уласнасці. Прадпрыемствы па здабычы карысных выкапняў, метро і грамадскі транспарт павінны застацца ў дзяржаўнай і камунальнай уласнасці. Працэс прыватызацыі павінен адбывацца адкрыта. Усе грамадзяне Беларусі павінны мець права на набыццё акцый прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі, праз эфектыўны рынак каштоўных папер. Пры гэтым работнікам прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, гарантуецца ўдзел у прыватызацыі на льготных умовах. Адмяняюцца ўсе абмежаванні на абарачэнне акцый: іх можна свабодна прадаваць, дарыць, закладваць і перадаваць у спадчыну.*

СПАДЧЫНА

*Паводле ўжо існуючага праекта, інвестар мае намер максімальна аднавіць страчаныя пабудовы старога горада. Праўда, праект закранае толькі частку знішчанага квартала.*

# Літоўцы хочуць аднавіць знішчаны квартал у цэнтры Гродна




Тое, што гарадскія ўлады прадалі з аўкцыёну 0,15 га зямлі ў самым цэнтры старога Гродна пад забудову гандлёва-офіснага цэнтра, напалохала многіх гродзенцаў. Неабыякавыя людзі адразу выступілі з крытыкай у інтэрнэце. Прычым апасенні выказваліся самыя рэальныя.

У прыватнасці, гучала, што ў мірныя савецкія часы цэлыя кварталы старога Гродна ішлі пад коўш экскаватара дзеля ўвасаблення ў жыццё «грандыёзных» на той час па сваім размаху архітэктурных праектаў: будаўніцтва аблвыканкама на месцы квартала гістарычнай забудовы канца XVIII – пачатку XX ст., драмтэатра – на месцы бернардзінскага жаночага касцёла і кляштара XVII ст., гандлёвага дома на вул.Савецкай – на месцы гатэля «Еўропа», Дома быту – на вуліцы Замкавай…

Зараз ужо дакладна вядома, што заказчыкам новага будаўніцтва на тэрыторыі паміж Домам быту і Палацам тэкстыльшчыкаў стала літоўская фірма «ТД-груп», якой у Гродне ўжо належыць сетка кавярняў. У праекце, выстаўленым для абмеркавання, інвестар інфармуе, што на ўчастку плануецца збудаваць тры гандлёвыя аб'екты. Адзін з іх мае быць аднапавярховым, і яго плошча складзе 280 квадратных метраў. Яшчэ два – двухпавярховыя плошчай каля 230 і 425 квадратных метраў.

Паводле меркавання вядомага гродзенскага краязнаўцы і аўтара макета старога Гродна **Ігара Лапехі**, які азнаёміўся з праектам, заказчык плануе максімальна ўзнавіць страчаныя пабудовы старога горада. І, што вельмі важна, перад будаўніцтвам інвестар узяў на сябе абавязкі правесці археалагічныя раскопкі.

Лапеха нагадвае, што гэты квартал старога Гродна разбураны ў савецкія часы, аднак ён быў добра вывучаны яшчэ ў 1920–1930-я і пастаўлены на ўлік як помнік архітэктуры.

Яшчэ на адну важную дэталь звяртае ўвагу Лапеха. На ягоным макеце добра відаць, што ў архітэктурны ансамбль на Замкавай уваходзілі не тры, а чатыры дамкі, якія фасадамі выходзілі на вуліцу Замкавую.

*«Я разумею, што не ў сілах інвестара было спраектаваць так, як гэта выглядала нават на пачатку XX стагоддзя, паколькі на месцы аднаго з дамоў зараз праходзіць дарога, якая з Замкавай вядзе да Дома быту*, – кажа Лапеха. – *Гэты кавалак зямлі нават ніхто не прадаў інвестару. Хаця я яшчэ раней прапаноўваў перапланаваць тут праезную частку, каб змяніць рух і цалкам аднавіць архітэктурны ансамбль Замкавай».*

І далей Лапеха ўдакладняе, што ў будучыні ўсё ж застаецца магчымасць дабудаваць чацвёрты дамок, з тым каб вуліца Замкавая вярнула свой першапачатковы выгляд.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку злева: так выглядалі дамкі на вуліцы Замкавай яшчэ пасля Другой сусветнай вайны.**

**Справа: вуліца Замкавая старога Гродна на макеце краязнаўцы Ігара Лапехі. На макеце відаць, што на вуліцы Замкавай побач шчыльна стаялі чатыры дамкі. На месцы правага дамка зараз праходзіць дарога, і яго аднаўленне не плануецца.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Прабачце, Віктар Мікалаевіч!



У мінулым нумары «Народнай Волі» выйшла інфармацыя пра тое, што нядаўна народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка перанесла аперацыю па замене тазабедранага сустава. Са старонак газеты Зінаіда Аляксандраўна дзякавала ўрачам і казала многа цёплых слоў у адрас усяго персаналу 6-й клінікі. Аднак у тэкст закралася прыкрая памылка. Галоўнага ўрача бальніцы Віктара Мікалаевіча Гурко назвалі Паўлам Іванавічам.

Канечне ж, 6-ю Гарадскую клінічную бальніцу Мінска ўжо амаль 16 гадоў узначальвае заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь, выдатнік аховы здароўя, кандыдат медыцынскіх навук **Віктар Мікалаевіч ГУРКО.**

Прыносім свае прабачэнні яму і чытачам «Народнай Волі».

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Ці прадасць Юрый Чыж мінскае «Дынама»?

*Сталічны футбольны клуб ахутаны невядомасцю.*

Учора стала вядома, што галоўны трэнер «Дынама» **Сяргей Гурэнка** пакінуў пасаду, гэта афіцыйна пацвердзілі ў клубе.

Яшчэ раней, паводле інфармацыі журналіста «Прессбола» Аляксандра Дабрыяна, Гурэнка атрымаў прапанову стаць асістэнтам **Славалюба Мусліна** *(у свой час сербскі спецыяліст таксама трэніраваў мінскае «Дынама» і працаваў разам з беларускім трэнерам у розных камандах.* – **Аўт.**) у клубе з Саудаўскай Аравіі «Аль-Фейха»:

*«Паводле слоў Сяргея Гурэнкі, увесь мінулагодні трэнерскі склад цярпліва чакае развязкі. Хаця прапановы паступаюць, і той жа Гурэнка прызнаўся, што сябра і калега Славалюб Муслін хоць сёння чакае яго ў Саудаўскай Аравіі. Трэнеры не сядзяць склаўшы рукі, на паперы ўжо распісаны ўвесь падрыхтоўчы перыяд. Праўда, ёсць дзве акалічнасці. Калі да 11 студзеня ў «Дынама» не з'явіцца новы гаспадар, бессэнсоўным будзе выглядаць выхад каманды з адпачынку. І больш важная: ці давераць наогул Гурэнку і яго асістэнтам працягваць кіраваць дынама-машынай?»*

Тым часам пра новага гаспадара клуба да гэтага часу афіцыйна не аб'яўлена, усё па-ранейшаму застаецца на ўзроўні чутак і версій. Раней той жа Гурэнка выказаўся так: «*Сядзім без кантрактаў, чакаем рашэння зверху. Вельмі спадзяёмся, што ўсё вырашыцца як мага хутчэй, бо вельмі шкада часу, які сыходзіць*».

Як паведамляе by.tribuna.com, не выключана, што бізнесмен **Юрый Чыж** можа захаваць кантроль над сталічным клубам, і на сёння гэта адзін з самых верагодных варыянтаў развіцця падзей. Аднак не выключана, што новага ўласніка працягнуць шукаць.

Нагадаем: яшчэ летам з'явілася інфармацыя, што Чыж збіраецца прадаваць мінскае «Дынама». Паведамлялася, што новым гаспадаром клуба можа стаць расійскі бізнесмен **Міхаіл Гуцэрыеў**, беларускі бізнесмен **Уладзімір Япрынцаў** альбо IT-прадпрымальнік **Віктар Пракапеня**.

Кіраўнік Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Румас**, які да таго ж яшчэ і прэм'ер-міністр Беларусі, з гэтай нагоды выказаўся таксама загадкава: «*Ведаю, хто будзе новым уласнікам «Дынама», але не скажу*».

Загадкавасць – гэта, безумоўна, добра для стварэння пэўнай інтрыгі, але найперш у такой сітуацыі цярпяць футбалісты і трэнеры, якія сталі закладнікамі абставін і жывуць у невядомасці. Не выключана, што многія разбягуцца ў розныя бакі, і каманду прыйдзецца збіраць, што называецца, з нуля.

Не вядома, чым усё гэта закончыцца, але ясна адно – у новым сезоне бронзаваму прызёру апошняга чэмпіянату Беларусі давядзецца вельмі і вельмі няпроста. А пакуль, відаць, гандаль працягваецца…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПОСТСКРИПТУМ



# В деле о высылке пресс-секретаря ОГП Анны Красулиной поставлена точка

Как известно, 13 ноября минувшего года миграционные службы страны приняли решение выслать пресс-секретаря Объединенной гражданской партии Анну Красулину из Беларуси сроком на один год. Причина – три административных правонарушения, два из которых – участие в несанкционированных массовых мероприятиях и одно – неоплаченный проезд в городском автобусе.

Анна Красулина – гражданка России, но живет в Беларуси и с 2002 года имеет вид на жительство в нашей стране. Решение о высылке она посчитала необоснованным, незаконным и политически мотивированным. В основу решения УВД о высылке легли документы для служебного пользования, которые Красулиной никто не показал. Более того, Анна не была согласна с тем, что ее привлекли к административной ответственности якобы за участие в несанкционированных мероприятиях; оспаривала это решение в белорусских судах, но, получив отказ, обратилась в Комитет по правам человека ООН. Свое решение Комитет еще не вынес.

18 и 19 декабря в суде Московского района состоялось рассмотрение жалобы Анны Красулиной. Вердикт судьи Ольги Гусаковой: «*Жалобу Красулиной удовлетворить. Решение ОГиМ о высылке отменить*».

Конечно, Красулину это порадовало. Она осталась в Беларуси, со своей семьей. Но представители УВД Московского района могли обжаловать это решение в суде высшей инстанции.

– В среду 9 января я получила информацию из суда Московского района, что инициаторы моей высылки не стали этого делать. Срок, который отводится на обжалование, – 15 дней – прошел, – говорит Анна. – В тот же день, 9 января, я сходила в отдел по гражданству и миграции Московского района, подала документы на продление вида на жительство и попросила решить вопрос об аннулировании штампа о высылке, который был поставлен в мой паспорт. Начальник отдела был предупредителен и вежлив, поставил поверх него другой штамп: «Аннулировано». Так что на уровне ОГиМа дело закрыто.




**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЗНАКОМСТВА

# Почему Павел Камышов из Подмосковья подписался на ПДФ-версию «Народной Воли»

*Незадолго до Нового года редакция «Народной Воли» возобновила подписку на ПДФ-версию печатной газеты. Одним из первых, кто решил дважды в неделю получать газету по электронной почте, оказался Павел Камышов из подмосковного города Фрязино.*

Заметим: Павел вместе с женой и тремя детьми встречал новогодние праздники в Минске. А перед отъездом решил зайти в редакцию и поделиться своими впечатлениями о Беларуси, рассказать о том, почему ему, россиянину, захотелось получать новости из соседней страны.

– Беларусь – не чужая нам страна. Моя жена Юлия наполовину белоруска, ее отец родом из Минска. Тут живут родственники. Каждый раз, бывая в Беларуси, что-то новое узнаем. В России информации о Беларуси очень мало. Если и попадается, то в основном о приезде Лукашенко в Москву, переговорах на высшем уровне. О том, что происходит внутри вашей страны, сведений в наших средствах массовой информации, считай, никаких. А нам хочется больше знать о Беларуси, поэтому и подписались на ПДФ-версию газеты «Народная Воля». Система подписки очень проста. Оплачивал картой «Альфа-банка» через Webpay.

**– Павел, стоимость подписки на нашу газету около трех долларов в месяц за восемь-девять номеров. Это дорого по российским меркам?**

– Я пока не могу сказать, дорого это или нет. Все зависит от того, какие материалы публикуются, каково их содержание. За интересную, полезную, запоминающуюся информацию можно и дороже заплатить…

**– А о чем вам было бы интересно почитать?**

– О жизни людей, об их благосостоянии, о том, как они чувствуют себя в это непростое время.

**– Поскольку вы уже не однажды бывали в Беларуси, то какое-то мнение о нашей стране сложилось…**

– Четко могу сказать про те вещи, с которыми лично столкнулся. Первое, что бросается в глаза, – несовершенная работа некоторых обслуживающих организаций, отсутствие у них клиентоориентированного подхода. Прошлым летом, например, мы были в Несвиже. Казалось бы, раскрученное туристическое место. Но у нас возникли проблемы с обменом денег. В выходной во второй половине дня закрыты все банки. Такая же ситуация с магазинами. Да, там есть один супермаркет. Но мы жили в другом конце города, далеко от него. Все маленькие магазинчики были закрыты. Такие вещи удивляют. Я понимаю, когда такое происходит в глухой провинции, далеко от туристических маршрутов, где нет необходимости в обменниках, кафе и работающих допоздна магазинах. А в Несвиже такая потребность есть.






Вторая проблема – слабо развиты информационные системы. Интернет есть далеко не везде. Взять, к примеру, карты и справочники «2ГИС». Отличная вещь, в них можно найти любую нужную информацию. А туристу сейчас без хорошего электронного путеводителя в чужой стране очень неуютно. Но подобных порталов в Беларуси нет. И это странно, так как я знаю, что тут много компаний, которые занимаются IT-бизнесом. Но туризм, видимо, не находится в поле их разработок. А у страны большой туристический потенциал. Беларусь должна больше привлекать туристов, заботиться о том, чтобы им было тут комфортно.

Хотелось бы, чтобы в больших городах, туристических центрах были пункты проката велосипедов, самокатов: в одном месте взял – в другом оставил.

Что очень нравится у вас? То, что за исключением Мира–Несвижа (да и то с натяжкой) нет «вылизанных» туристических мест, искусственной картинки. Здесь всегда реальная жизнь.

С нашего предыдущего визита в Беларусь прошло чуть больше года. Вот что на этот раз бросилось в глаза: станции в метро объявляют по-белорусски и по-английски, указатели и названия улиц – по-белорусски. Национальная самоидентификация – это замечательно, но надо думать и о туристах. Россиян в Беларуси наверняка всегда много. В Москве, понятно, объявляют названия станций по-русски и по-английски. Но в той же Казани, столице многонационального Татарстана, объявляют на трех языках – русском, английском, татарском. Почему и вам так не сделать?

**– Когда что-то не понимаете, приходится обращаться к прохожим?**

– Да, язык, как говорится, до Киева доведет. Люди у вас замечательные. К кому ни обращались, всегда подсказывали, объясняли, чуть ли не за руку отводили. Помню, в Бресте искали конкретное кафе с национальной кухней. Случайные прохожие проводили нас к нему. Оно оказалось на территории парка.

**– Какие блюда белорусской кухни любите?**

– Драники, конечно. Еще зразы, тыквенный суп, мочанку. Мне нравится белорусская кухня, она сытная и вкусная. Дома иногда готовим драники. Хочу сказать по поводу белорусских кафе, мест общепита. Где бы мы ни обедали, везде было очень уютно и чисто, соблюдены все санитарные нормы. Грязные рюмочные ни разу не попадались. Причем всегда сопоставимо: цена – качество. Только однажды неоправданно дорого поели. Это было в Мире. Тогда там было открыто только одно кафе.

**– Где вы жили, когда путешествовали по Беларуси?**

– Чуть больше года назад летом мы проехали от Орши до Бреста с остановками в Минске, Несвиже, Мире, Бресте, Беловежской пуще. Ночевали где одну ночь, где две. При съеме жилья пользовались международными системами бронирования. Проблем не возникало.

Везде нас встречали очень радушные приветливые люди. Что меня поразило, все старались официально оформить документы, заключить договор аренды. И это здорово: ведь в первую очередь это наша защищенность. В поездках по России бывало по-разному. В одном месте мы даже не видели хозяина, созванивались с ним по телефону, а ключи от квартиры он оставил нам у продавца соседнего магазина.

**– Если бы вдруг по каким-то причинам вам пришлось переехать из России в Беларусь, смогли бы вы тут жить, сохраняя тот же уровень достатка?**

– Учитывая то, что я работаю в сфере IT и над большинством проектов – дистанционно, думаю, чувствовал бы себя у вас неплохо. Стоимость жизни в Беларуси и России примерно одинаковая. Доходы у белорусов, конечно, меньшие. Хотя в IT-области вполне неплохие. И она развивается в Беларуси, это видно.

**– Вам понравился Минск новогодний?**

– Минск в принципе хороший крепкий европейский город. Это совсем не «совок». В нем приятно находиться, а сейчас тут чувствуется еще дух праздника.

**– Спасибо! И счастливой вам дороги домой!**

**Екатерина МЕДВЕДСКАЯ**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Калі пустыя кашалькі, вырошчвайце свае гуркі

Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю склала спіс спажывецкіх тавараў, якія будуць карыстацца найбольшым попытам у 2019 годзе. У яго, у прыватнасці, увайшлі сякеры, косы, сярпы, штопары…

Чытаў з усмешкаю на твары
(Не рагатаў парою ледзь),
Якія рэчы і тавары
Часцей ва ўжытку будзем мець.
Не дасць, магчыма, хтосьці веры,
Але сцвярджаецца ўсур'ёз,
Што нам спатрэбяцца сякеры
І не абыдземся без кос.
Я дваццаць год касу не бачыў!
Таму адчуў намёк такі:
Эксплуатуйце вашы дачы,
Калі пустыя кашалькі;
Не давярайце больш уладзе,
Бо да галечы давядзе,
Вам увіхацца трэба ў садзе
І калупацца на градзе,
Каб на стале былі заўсёды
Гурочкі, грушы, гарбузы,
Каб плён далі караняплоды,
Апроч астатняй драбязы;
Таму і будуць вам дарэчы
Сякеры, косы, сахары,
Якія помніць люд старэчы.
Дык Бог у помач вам, сябры!

* * *

Сябе мы будзем цешыць чаем
І есці свойскую яду.
Адно мяне не засмучае —
Што будуць штопары ў хаду…

## Зацягнулі паясы, сталі біцца за трусы

Дырэктар бабруйскай крамы «Еўра-хэнд» пабіў маладзіцу, якая спрабавала ўкрасці жаночыя трусы. Супраць дырэктара ўзбуджана крымінальная справа (маладзіца заявіла, што ён імкнуўся яе згвалтаваць), а сама зладзейка атрымала штраф.

Як не маеш грошай многа,
Абнасіў адзенне ўшчэнт,
Дык табе дарункам Бога
Здасца нават сэканд-хэнд.
(Прасвятлю няўцямным клёпкі:
Сэканд-хэнд — замежны хлам.
І атрускі, і атопкі
Аддаюць буржуі нам.)
Сярод нас, сказаць дарэчы,
Небагатых дужа шмат,
І таму такія рэчы
Прадаюцца нарасхват.
Цугам люд ідзе да крамы,
Дзе шмаццё ляжыць гарой.
Часам там бываюць драмы
(Дый трагедыі парой).
…У жанчыны грошай мала
Ці наогул не было.
На паліцах жа ляжала
Дзе-нідзе зусім не тло.
Вунь, напрыклад, ніштаваты
У трусоў жаночых від.
І цана — не паўзарплаты,
І не трэба браць крэдыт.
Ды карцела маладзіцы
Мець трусы нашармака.
І міжволі да паліцы
Пацягнулася рука…
А дырэктар гэтай крамы
Пазіраў на манітор,
Бо сачыў галоўны самы,
Каб ніхто тавар не спёр.
І на тую маладзіцу
Кінуў ён пагляд касы.
Што такое? Пад спадніцу
Пхае ўпотайкі трусы!
Заплаціць, лічы, капейкі
Не жадае за тавар!
Ён памчаўся да зладзейкі,
Як пажарны на пажар.
Абхапіў дырэктар, рукі
Ёй за спінаю заплёў,
Ну а потым для навукі
Надаваў і кухталёў.
Атрымала ўдосталь краля!
Ды не скончыўся эксцэс:
Каб забраць трусы, што ўкрала,
Пад спадніцу ён палез…
Шкадаваў напотым горка,
Што саваў туды руку,
Бо пасля была разборка,
І сказала следаку
Маладзіца:
— Ён наскочыў
Звера хіжага накшталт!
І хоць злыдню плюй у вочы —
Учыніць збіраўся гвалт!
Не дастаў трусы чужыя —
Зняў ён тыя, што на мне!
І службовец справу шые —
След знайшоўся на сцягне.
Ён жа там з'явіўся неяк…
А зладзейцы штраф далі.
Ёй было шкада капеек,
А цяпер аддасць рублі.

* * *

Зараз час нядобры ўсё-ткі:
Зацягнулі паясы
І гатовы грызці глоткі
За злінялыя трусы…

З НАГОДЫ

# На беларускіх ялінках цацкі павінны ззяць нацыянальным зместам

Імкнуся разабрацца і разумею, што не пераважыць больш таго вялікага хвалявання, якое было, калі бацька ўносіў у дом ялінку і мы, дзеці, яе ўпрыгожвалі. Святло газавай лямпы адлюстроўвалася ў самаробных цацках і вабіла сваёй чароўнасцю. Разам з пахам смалы ў дом прыходзіла цуд-свята. Сустракаць Новы год у глыбінцы было найвялікшай радасцю для дзіцячай душы.



Прагрэс даўно даў электрычнасць, з'явіліся штучныя ёлкі і самыя розныя шкляныя цацкі. У самім рытуале ўпрыгажэння ялінкі ўжо няма таго сакральнага эстэтычнага зместу, калі кожнаму маленькаму ўзору самадзейнага выяўленчага мастацтва, які ўяўляла сабой цацка, трэба было адшукаць належнае месца на ялінцы. Гэта было сапраўднае эстэтычнае выхаванне...



Я ведаю, што Таццяна Барэль з Асіповічаў імкнецца захаваць для нашчадкаў значнасць і прыгажосць колішніх ёлачных упрыгожанняў. Нядаўна ў раённым музеі адбылася выстава з яе калекцыі з трох соцень цацак 30–80-х гадоў мінулага стагоддзя. На іх адлюстраваны як сімвалы эпохі, так і рэчы, больш блізкія дзіцячаму ўспрыманню з раслiннага ці жывёльнага свету, выявы казачных герояў і простых людзей. Наведвальнікі музея са Швецыі былі ўражаны такім беражлівым стаўленнем беларусаў да захавання памяці пра мінуўшчыну.

Таццяна Барэль займаецца не толькі збіраннем, але і рэстаўрацыяй ёлачных цацак, шкадуе, што падчас людзі выкідваюць іх на сметнік разам са старымі фотаздымкамі. Яна ўпэўнена, што выхаванне навагодняй цацкай вельмі важна, і на беларускіх ялінках яны ўжо даўно павінны ззяць нацыянальным зместам.

**Віктар ХУРСІК.**

З НАТУРЫ

# Пра цукеркі «Беларусачка», «Добрага Яна» і актыўную грамадзянскую пазіцыю

Хачу падзяліцца з чытачамі «Народнай Волі» – газеты, якую я чытаю даўно, рэгулярна і з задавальненнем, – адной прыгодай, што адбылася са мной напрыканцы мінулага года.

Як і многія жанчыны, я люблю ласункі. Асабліва мне даспадобы салодкія вырабы бабруйскага ААТ «Чырвоны харчавік» – зефір, пасціла, казінакі. А пару гадоў таму я адкрыла для сябе вельмі прыстойныя цукеркі гэтага вытворцы – «Беларусачка». Дэмакратычныя па цане, смачныя і, што асабліва прыемна, надзвычай густоўна афармленыя, ды яшчэ па-беларуску! Каробка «Беларусачкі» – журавінавай, сунічнай, агрэставай (усяго пяць відаў на выбар – смачныя ўсе!) – даўно стала маім улюбёным прэзентам у самых розных жыццёвых сітуацыях.

З надыходам снежня і ў клопатах пра навагоднія падарункі я наведалася ў знаёмы фірмовы магазін на вуліцы Адзінцова. Прадавачка, кабета з выразным адбіткам пражытых гадоў і стоенай раздражнёнасцю на твары, упэўнена паклала перада мной сунічныя цукеркі, хаця я прасіла журавінавыя. На маю заўвагу пра іншую каробку жанчына агаломшыла мяне тырадай, з якой запомнілася «не изучала», «мне это не нужно», «таких, как вы, – одна на тысячу» і нешта падобнае.

Зрабіўшы патрэбныя мне пакупкі, я папрасіла кнігу заўваг і прапаноў, напісала адпаведную заяву і… забылася пра непрыемнае здарэнне на некалькі тыдняў. Аж пакуль дачка не абвясціла мне, што на праваслаўныя Каляды мае прыехаць з Расіі сваццця. Трэба рыхтавацца да сустрэчы. Успомніўся прыкры магазінны эпізод. А дзе ж пісьмовы адказ на маю заяву? Яго не было. Паглядзела ў інтэрнэце закон аб правах спажыўцоў. Так, 14 дзён, адведзеныя на інфармаванне заяўніка ў сувязі з яго пісьмовым зваротам, прайшлі. Я ведала, якім павінен быць мой наступны крок: заява ў адміністрацыю Фрунзенскага раёна, на тэрыторыі якога знаходзіцца юрыдычная асоба, дзе адбыўся інцыдэнт, аб парушэнні майго права як спажыўца. Пісаць вельмі не хацелася, бо чамусьці ўяўлялася, што адказу зноў не будзе альбо я атрымаю фармальную адпіску тыпу «ваш зварот накіраваны для разгляду ў…».

Пераадольваючы сябе, вырашыла ўсё ж адшукаць тэлефон кіраўніцтва фірмовага магазіна, каб спраўдзіць, ці вядомы ім факт майго пісьмовага звароту. Знайсці ў Сеціве патрэбныя кантакты цяжкасці не склала, і неўзабаве я ўжо ведала, што інфармацыя пра інцыдэнт дырэктару, у падпарадкаванні якога некалькі гандлёвых кропак «Чырвонага харчавіка», даведзена не была. А праз некалькі дзён я трымала ў руках адказ на маю заяву, які мяне вельмі ўсцешыў. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць яго цалкам:

«Паважаная Тамара Мікалаеўна!

*ПГУП «Добры Ян» разгледжаны Ваш зварот, занесены 02.12.2018 у кнігу заўваг і прапаноў гандлёвага аб'екта, размешчанага ў г.Мінску па вул. Адзінцова, д.20. Па факце грубых паводзін прадаўца з апошняй праведзена прафілактычная гутарка, прынята рашэнне аб яе дэпрэміраванні па выніках работы за чацвёрты квартал 2018 года. З мэтай выключэння аналагічных сітуацый у бліжэйшы час будуць набыты слоўнікі беларускай мовы для наступнага іх выкарыстання персаналам прадпрыемства. Названы крытэрый у далейшым будзе ўлічвацца пры падборы персаналу.*

*Загадзя ўдзячныя за ўнесеную прапанову, праяўленую актыўную грамадзянскую пазіцыю.*

*З павагай,*

*П.Ю.Дабрыян, дырэктар ПГУП «Добры Ян».*

З гэтай маленькай гісторыі кожны можа зрабіць свае высновы. Але ясна адно: не ўсё так безнадзейна ў нашым царстве-гаспадарстве. І каб зрэдку атрымліваць *радасці скупыя тэлеграмы*, трэба грукацца ва ўсе дзверы, пераадольваючы бязвер'е, стому, свае маленькія слабасці.

**Тамара КАРОТКАЯ.**

*Мінск.*

ПРОБЛЕМА!

# Органическая продукция…

## Когда она будет на нашем столе?

Органические продукты…

В последнее время о них заговорили не только аграрии, но и специалисты по питанию, экономисты, представители сферы торговли.

В нашей стране, я слышал, готовится закон об органической продукции, и, надеюсь, он положит начало развитию новой подотрасли. Ведь недостаточно вырастить, скажем, тот же картофель без использования минеральных удобрений. Нужно еще в определенных условиях его сохранить, грамотно переработать, с соблюдением рецептуры изготовить то или иное блюдо.

Почему встал вопрос о производстве органической продукции? Прежде всего потому, что наука доказала, какой вред наносит здоровью человека химизация сельского хозяйства. В погоне за высокими урожаями в тех же сельхозкооперативах применяются многократные обработки растений гербицидами, фунгицидами, инсектицидами и другими препаратами. А для повышения продуктивности скота используются гормоны роста, антибиотики и так далее.

Покупателей успокаивают: мол, к продаже допускается только проверенная продукция. В крупных торговых центрах основанием для ее реализации являются сертификаты, но где гарантия, что товар и сертификат всегда находятся в полном соответствии?

Еще больше вопросов возникает к той продукции, которая реализуется на рынках. Проверка на наличие пестицидов у нас вообще не проводится. А что такое санитарный контроль? Приносишь, например, килограмм помидоров и их исследуют на некоторые показатели. Но можно ведь принести одно, а торговать совсем другим. Я не видел, чтобы работники лабораторий брали пробы с каждой единицы тары, как положено по инструкции. Это во-первых. А во-вторых, вред нитратов для человека по сравнению с пестицидами – это все равно, что укус осы по сравнению с укусом змеи. Ведь большинство пестицидов – это яды, а нитраты в оптимальном количестве даже нужны нашему организму.

Проверка на наличие радиации тоже, как говорится, полуправда, так как имеющиеся в лабораториях рынков радиометры фиксируют только гамма-излучение, которое дает при радиоактивном распаде цезий, но не дает стронций, распад которого сопровождается бета-излучением, поражающим наши органы изнутри. Период полураспада этих радиоактивных элементов примерно одинаков, и осталось их после Чернобыльской трагедии примерно одинаковое количество, но мы постоянно слышим только про цезий, хотя стронций не менее опасен, он поражает костный мозг со всеми вытекающими последствиями.



Возвращаясь к вопросу об органической продукции, хочу сказать, что произвести ее практически невозможно. Если какому-то хозяйству удалось исключить все пестициды и удобрить почву только натуральным перегноем или компостом, то это еще не значит, что растения не получат вредные вещества. Они ведь могут содержаться в тех же компостах, если для подстилки скота использовали обработанную пестицидами солому или коровам выдавались корма, выращенные с использованием пестицидов.

Абсолютно органическую продукцию можно получить только в изолированном хозяйстве с замкнутым циклом производства. И я не верю той информации, которая как-то прошла по телевидению, что в Беларуси уже 80 фермерских хозяйств производят органическую продукцию. Кто определил, что она соответствует всем требуемым параметрам? Ведь у нас сертификация такой продукции еще не производится, и решится этот вопрос только после принятия закона об органической продукции, когда будет контролироваться не только сама продукция, но и весь процесс ее производства, что, кстати, за рубежом уже делается.

Можно предположить, что продукцию, более-менее приближенную к органической, есть возможность сегодня производить на приусадебных участках, где прополка от сорняков проводится вручную, что позволяет избежать применения гербицидов. С болезнями растений частники борются народными методами, не прибегая к использованию фунгицидов, инсектицидов и т.д.

Но покупатели на рынке толпятся у тех прилавков, на которых лежат более дешевые овощи, не интересуются, каким образом они произведены. То же относится и к фруктам, которые во многих хозяйствах обрабатываются за лето до десяти и более раз. А на приусадебных участках многие владельцы вообще не обрабатывают, но покупатели предпочитают красивые блестящие яблочки в восковой оболочке, не зная, сколько вредных веществ в них содержится.

Вот почему для аграрного сектора давно пришло время заняться как следует производством органической продукции.

**Валерий Александрович ЛИСТОПАД, бывший учитель, ударник двенадцатой пятилетки.**

*д.Лучники Слуцкого района.*

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

*председателю Барановичского горисполкома Юрию ГРОМАКОВСКОМУ*

# Почему бы в Барановичах не увековечить память солдат-белорусов, погибших в Первой мировой войне?

Уважаемый Юрий Анатольевич!

Под Вашим председательством прошло заседание городского совета по вопросам историко-культурного наследия. Во время Первой мировой войны какой-то период в Барановичах находился Николай II. Здесь была ставка царя. А далее я цитирую местную газету «Наш край» (5.01.2019): «*Спустя 100 лет потомки думали, каким образом увековечить это историческое событие*».

Отмечу, что «потомки», не известные широкой общественности, спохватились спустя четыре года после юбилейной даты, но всё же решили сделать «подарок» жителям города.

При Вашем предшественнике много говорилось о создании музея царя-батюшки, но с его уходом с поста председателя горисполкома как-то все успокоилось. И вдруг при Вашем участии забытая идея становится реальностью.

Решили установить памятный знак у железнодорожного вокзала Барановичи-Полесские. Кстати, там уже стоит солидный камень, напоминающий о выступлении революционно настроенных солдат.

Юрий Анатольевич! Неужели Вы забыли о расстреле Николаем II мирной демонстрации в Петербурге? Последний российский император, пожалуй, этим печальным эпизодом и отличился.

Да, Русская православная церковь считает Николая II святым, и тут ничего такого нет – дела церковные. Вот и Гришка Распутин уже не развратник, а «святой старец».

В Первой мировой сцепились империи, и война была империалистической, но на фронте погибали солдаты, в массе своей крестьяне и рабочие. Так почему бы в Барановичах не увековечить память солдат-белорусов, погибших на той войне? Это было бы по-человечески понятно.

И главное. В царской России даже название Беларусь оказалось под запретом, наша земля стала безликим Северо-Западным краем. Нищету и бесправие принес царизм на нашу землю. И в те времена, чтобы получить образование, белорусы должны были ехать в Петербург, Варшаву… Только независимость дает нам надежду на достойную жизнь. При всех существующих сегодня проблемах я не хотел бы возвратиться в советское прошлое и тем более жить в российской окраине.

Юрий Анатольевич! Необходимо увековечивать Беларусь, возвращать народу его историческую память, национальное достоинство и не забывать, что у нас два государственных языка, но почему-то на улицах нашего города почти все вывески сделаны на русском. Неужели Вы этого не видите?

А что касается российских императоров, то их восхвалять, любить и оплакивать в России есть кому.

Между прочим, а почему жителей Барановичей не подключили к обсуждению «исторического события 100-летней давности»? Их мнение разве не важно?

**Сымон СВИСТУНОВИЧ, житель Барановичей.**

ВЕКАПОМНАЕ

# Знішчаныя хутары

У міжрэччы Дняпра і Бярэзіны знаходзіцца куток, які мілей мне за ўсё на свеце. Абапал ціхаплыннай рэчачкі Алешынкі, якая акружана сасновымі барамі, перамяжаючыся з бярозавымі гаёчкамі, стаіць, яшчэ трымаецца апошнімі жыхарамі, вёска Кабанаўка – мая малая Радзіма.

Бойкія дарогі абмінулі гэты куток, землі тут пясчаныя, не дужа ўрадлівыя, лясы – у большасці сасновыя бары і то невялікага банітэту.

Да 1860 года мясцовы пан прагуляў у карты вёску на 200 двароў і амаль усіх людзей прадалі і вывезлі ў Сібір у Томскую губерню. Новы пан – інжынер-капітан Юлій дэ Бэхлій – за гадоў колькі спляжыў усе навакольныя лясы дашчэнту, зарабіўшы добрую капейчыну, і ў часы сталыпінскіх рэформ ізноў разбагацеў, прадаўшы казне ўжо агаленыя ад лясоў землі.

Уся Бэхляўшчына, як называлі яе людзі між сабой, гэта значны абшар былой Якіма-Слабадской воласці Рэчыцкага павету. Сяляне выкуплялі зямлю, сенажаці – сяліліся на хутарах. Абжываючыся, будуючыся, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, гадавалі дзяцей. Дужэйшыя і найбольш працавітыя станавіліся з цягам часу на трывалыя ногі, а вось у гультаёў не вельмі атрымліваўся плён працы на зямлі.

Дзед мой па матчынай лініі, Трафім Савельевіч Гаўрыленка, 1891 года нараджэння, вярнуўся з Першай сусветнай вайны, атрымаўшы кантузію, заслужыўшы Георгія, і прывёў двух коней у падзяку за службу. У дзеда быў хутар з пясчанай зямлёй, але з добрай сенажаццю ва ўрочышчы Дзеравянка, паўз Бярозу-раку. Разам з братам Міхайлам валодалі балотам, якое не выкарыстоўвалася. Яго ім прыкупіў іх бацька, мой прадзед Саўка. Яно і зараз мае назву Саўкаў мох.

На пераломе 1920–1930-х гадоў мінулага веку пачалі ствараць калгасы. Усе пралетарыі першымі падаліся ў іх са сваімі сем'ямі, бо ўлада паабяцала надзяліць іх усім, чаго ў іх бракавала на той час. Ніхто не думаў, што чужое дабро вылезе ў рабро. А вось сапраўдныя гаспадары ўпарціліся аддаваць уласнае, нажытае потам, у агульны кацёл-калгас.

Па даносах пачалі вывозіць тых хутаран, якія не падабаліся ўладзе, але і не менш важкай мэтай даносчыкаў з'яўлялася тое, што такім шляхам можна было атрымаць іх нерухомую і рухомую маёмасць: жывёлу, будынкі, малатарні, млыны. Зайздрасць – вельмі вялікі грэх у людзей, але бязбожнікі не грэбавалі нічым.

Каго прымусова вывезлі – ніхто з іх і іх родных назад ужо ніколі не вярталіся, а гаспадаркі іхнія падпалі пад раскулачванне, то бок рабаванне. Тых хутаран, якія пазбеглі раскулачвання, абклалі непасільнымі падаткамі. Жыццё было невыноснае, часам іншыя накладалі на сябе рукі. За нявыплату падаткаў з хат забіралі падушкі, коўдры, цэбры, бочкі, кажухі. Жах вітаў між людзей. Дзяцей не было ў што апранаць, харчаваліся абы-чым, жыццё – адны пакуты.

У тыя гады ўкраінцы хадзілі па хутарах і прасілі хоць чаго паесці, абменьвалі рэчы (самавары, боты) на ежу, бо ў іх, успамінала бабуля Люба, быў страшэнны голад. Шмат іх памірала па дарогах, ля палеткаў.

Дзед Трафім упарціўся доўгі час, не жадаў ісці ў калгас: як гэта я сваіх коней аддам некаму?

Бачачы непазбежнасць рэпрэсій і далейшых адмоўных наступстваў бабуля Люба ўпрасіла старэйшага сына Мікалая, які потым загінуў у 1941 годзе, напісаць заяву аб уступленні ў калгас, тоячы гэта ад дзеда. Калгас меў назву «Камуніст», а людзі жартам і ўсур'ёз казалі: «Старац». Мянушка гэта існавала аж да скону калектыўнай гаспадаркі.

У дзеда забралі ў калгас двух коней, дзве каровы, пяць авечак, еўню, плугі, бароны, вупраж і іншае начынне.

Зямлі пакінулі невялікі лапік, абклаўшы падаткам, добра што не вывезлі са сваёй хаты ў Сібір.

У 1938–1939 гадах прыйшоў загад прымусова знесці хутары – звезці іх у адно месца, у вёску Кабанаўка. Прыязджалі актывісты, сцягвалі стрэхі з будынкаў, валілі нават сцены і вымушалі пераязджаць у вызначанае ў вёсцы месца. Шмат хто з хутаран, пакінуўшы ўсё, з'ехаў у іншыя паселішчы, не жадаючы бачыць і трываць бясконцыя здзекі і пакуты. Пімен Кісялёў апавядаў мне, што яго бацька не змог вытрываць такіх падзей, кінуў хату і ўсё, што ў ёй было, і пешкі з жонкай адправіўся за 40 кіламетраў у горад, каб не бачыць і не чуць аб рабаўніцтве. Старая ўжо Анюта Асаўчыха, у якой хату перавезлі ў вёску, засталася жыць у зямлянцы, дзе і дачакалася пасля вайны смерці. Хату ж у вёсцы расцягнулі па бервяну. Было і такое, што нехта з сям'і хадзіў на працу ў калгас, а другі сем'янін – не. Вельмі цяжка жылося ў калгасе, але аднаасобнікі не жылі, а існавалі, бо былі пазбаўлены ўсяго.

Са 180 хутароў за час раскулачвання большасць знікла са сваімі жыхарамі бясследна. Дзед Трафім хацеў таксама з'ехаць, завербавацца ў Ленінград, але нешта яго спыніла. Ён перавёз хату ў вёску на жоўты неўрадлівы пясок. Аздобіў яшчэ да вайны сваю сядзібу, цягаючы на плячах начоўкамі пладародную зямлю, пасадзіў сад, выкапаў рыдлёўкай копанку. Штодзень хадзіў на знясільваючую працу ў калгас, падарваўшы здароўе, не атрымліваючы на рукі ніякага заробку.

Бабуля Люба задавала пытанне, на якое няма адказу:

– Ну хай памешчыкаў, багацеяў раскулачвалі і знішчалі, лічачы, што яны нарабавалі ў іншых, але за што вывозілі людзей у лапцях і зрэбнай вопратцы разам з малымі дзецьмі ў лютыя маразы, як злачынцаў пад канвоем са зброяй?

Гэтага ў той час ніхто з хутаран не разумеў. Людзі хадзілі амаль галодныя, апавядалі тыя, хто даўно ўжо адышоў у іншы свет:

– Чакалі вясны як паратунку: хутчэй бы вылезла на балоце шчаўе, каб зварыць нейкую страву.

У народзе была на слыху частушка:

*Як быў цар Мікалаша, быў хлеб і была каша.*

*Як прыйшлі бальшавікі, то ні хлеба ні мукі.*

Мінула 80 гадоў, як былі знесены, знішчаны Кабанаўскія хутары. Сёння даводзіцца чуць розныя меркаванні наконт хутарскога гаспадарання ў тыя далёкія часы. Але я скажу так: на хутары нельга жыць гультаём, абібокам ці п'яніцай. Хутар выхоўвае працавітага, ашчаднага, дбайнага чалавека, які любіць зямлю.

Бальшавікі пераламілі хрыбет сялянству, а цяпер праўнукі і прапраўнукі не хочуць нават і размовы весці пра зямлю, бо ўжо надта ім смыліць тое, што адбылося з іх продкамі. Самае дарагое, што падарыла людзям прырода, – зямля – сёння не мае дбайнага гаспадара. А таму маем плачэўныя вынікі.

**Алег БЕЛІКАЎ.**

*г.Жодзіна.*

